№10(34)
Травень 1999

# ПРАВА НА ВОЛЮ

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




Мінск, 24 траўня 1999 г., шэсьце і мітынг у падтрымку М. Чыгіра.

# ПЕРАМОГА ЦІ ПАРАЖЭНЬНЕ?

## ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АДБЫЛІСЯ, АЛЕ... ВЫНІКІ ІХ ПРЫЗНАНЫЯ ЦЭНТРВЫБАРКАМАМ НЕСАПРАЎДНЫМІ

Калі дэпутаты легітымнага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня прызначылі на 16 траўня выбары прэзідэнта краіны, мала хто верыў, што выбарчы марафон атрымае сваё лагічнае завяршэньне. Адныя сьцьвярджалі, што прызначэньнем даты выбараў усё і скончыцца, іншыя лічылі, што выбары захлынуцца ў хвалі рэпрэсіяў з боку рэжыму супраць іх арганізатараў.

Гэтакі скептыцызм быў заканамерным, бо грунтаваўся на веданьні сітуацыі ў краіне. Прэзідэнт Лукашэнка намерыўся кіраваць дзяржавай да 2001 году і,вядома ж, саступаць камусьці сваю ўладу "датэрмінова" не жадаў. З першых дзён падпарадкаваныя яму сродкі масавай інфармацыі, і найперш радыё ды тэлебачаньне, павялі кампанію па дыскрэдытацыі наладжанай апазіцыйнымі сіламі выбарчай кампаніі. А потым, калі Цэнтрвыбаркам распачаў канкрэтную працу па стварэньні выбарчых камісіяў, калі групы падтрымкі кандыдатаў у прэзідэнты пачалі збор подпісаў дзеля іх рэгістрацыі, улады сталі раскручваць махавік рэпрэсіяў і запалохваньня арганізатараў выбараў. Пад ягонае ўзьдзеяньне патрапілі ня толькі кіраўнікі Цэнтрвыбаркаму, але і тысячы людзей па ўсёй краіне (рубрыка "Хроніка" апошніх нумароў нашага бюлетэня амаль цалкам была прысьвечаная гэтай тэме, але мы, на жаль, змаглі даць інфармацыю далёка не пра ўсе факты рэпрэсіяў). Аднак, нягледзячы на шматлікія перашкоды, справа выбараў ішла сваім ходам, паводле спланаванага графіку. Хоць тады ўжо было зразумела, што поўнакроўныя, сапраўды легітымныя выбары правесьці ў краіне ня ўдасца. Важны быў сам факт, што пэўная частка самых актыўных грамадзянаў Беларусі ня хоча мірыцца з існуючым ладам і гатовая змагацца за яго зьмену.

Актыўны ўдзел у правядзеньні выбараў ад пачатку прыняла самая ўплывовая і арганізаваная апазіцыйная партыя — Беларускі Народны Фронт. Менавіта дзякуючы яму выбарчыя камісіі былі створаныя ва ўсіх раёнах Беларусі. Цэнтрвыбаркам, лічачы, што правесьці выбары на стацыянарных выбарчых участках у сёньняшняй палітычнай сітуацыі немагчыма, прыняў рашэньне стварыць групы з двух чалавек, якія са скрынямі для галасаваньня абыйдуць выбаршчыкаў па месцы іх жыхарства.

Галасаваньне пачалося з 6 траўня. Але лідэр БНФ і кандыдат у прэзідэнты Беларусі Зянон Пазьняк назваў гэткі прынцып галасаваньня незаконным, а потым з-за гэтага і іншых парушэньняў закону аб выбарах і ўвогуле абвясьціў, што здымае сваю кандыдатуру.

(Заканчэньне на стар. 2)

## ХРОНІКА

*13 траўня* адбылося пасяджэньне Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь. На ім разглядаліся зыскі незалежных дэмакратычных газетаў краіны да Дзяржкамітэту па друку, у якіх газеты аспрэчвалі юрыдычнае абгрунтаваньне вынесеных ім папярэджаньняў. На судовы працэс прадстаўнікі газетаў не змаглі зьявіцца і хадайнічалі аб перанясеньні справы. Суд не задаволіў хадайніцтва і пачаў судовы працэс без прадстаўнікоў газетаў. Пры гэтым старшыня Вышэйшага Гаспадарчага Суда спадар Бойка нагадаў журналістам, якія прысутнічалі ў зале, пра прынцып роўнасьці і спаборнасьці бакоў. Падчас судовага працэсу старшыня суда спадар Бойка не прывёў ніводнага заключэньня экспертызы, хаця газеты абвінавачваліся Дзяржкамдрукам у закліку да захопу ўлады. Менавіта так было ацэненае паведамленьне газетаў пра правядзеньне прэзідэнцкіх выбараў.

*16 траўня* завяршыліся выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прызначаныя Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня. Па словах старшыні групы АБСЕ Адрыяна Севярына, "выбары былі палітычнай зьявай, якая дала магчымасьць зрабіць пэўныя высновы". Адрыян Севярын лічыць, што прадстаўнікі ўлады і апазіцыі пазітыўна скарыстаюць гэтую падзею для пачатку канструктыўных, сур'ёзных перамоваў для вырашэньня канстытуцыйнага крызісу. Асаблівую ўвагу група АБСЕ зьвярнула на факты пераследу і юрыдычных контрмераў, якімі суправаджалася выбарчая кампанія. Адрыян Севярын заявіў, што "затрыманьне ў сьледчым ізалятары аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты павінна быць неадкладна спыненае". Улічваючы створаныя ўладамі перашкоды, гаворыцьСевярын, "не чакалася, што выбары 16 траўня будуць адпавядаць стандартам АБСЕ".

(Працяг на стар. 6-7)

# Беларусі яшчэ рана ў Еўропу?

***У мінскім гарадзкім судзе працягваецца працэс па справе Яўгена Скочкі. Намесьнік старшыні Маладога Фронту абвінавачваецца па артыкуле 186, ч. 3 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (актыўны ўдзел у масавых беспарадках), які прадугледжвае пакараньне да трох гадоў зьняволеньня. Прадмет разьбіральніцтва – сёлетнія падзеі 14 лютага, калі моладзь адзначала дзень Сьвятога Валянціна ўжо традыцыйным шэсьцем «Беларусь – у Еўропу».***

Хлопцы і дзяўчаты штогод уручаюць свае віншаваньні супрацоўнікам амбасадаў заходніх краінаў, у якіх таксама просяць і паўплываць на паводзіны беларускага прэзідэнта. Што да Скочкі, то, паводле абвінаваўчага заключэньня, ён вінаваты ў тым, што «сабраў каля 200 чалавек на пляцы Волі», а потым «правёў несанкцыянаванае шэсьце», якое дзесяць разоў перапыняла рух транспарту: сем разоў – на адну хвіліну, адзін раз – на тры хвіліны, а каля амерыканскай амбасады – на 16 хвілінаў.

Пачатак суда быў скамечаны праявамі «моўнай праблемы». У адказ на рашэньне судзьдзі Валерыя Камісарава пра вядзеньне суда на рускай мове (бо на ёй гаворыць большасьць удзельнікаў працэсу) падсудны абвясьціў, што добра валодае толькі беларускай ды нямецкай мовамі, хоць і разумее рускую. Тым ня менш, судзьдзя палічыў за лепшае прыцягнуць да ўдзелу ў працэсе перакладчыка з беларускай мовы на рускую. Забягаючы наперад, адзначу, што паслугі мовазнаўцы з БДУ спатрэбіліся ўсяго аднойчы, калі адзін са сьведкаў, міліцэйскі псіхолаг, не зразумеў беларускага слова "ходнік", што азначае — "тратуар".

У працэсе бралі ўдзел грамадзкія абаронцы — Гары Паняйла, які прадстаўляў Беларускі Хельсінкскі Камітэт, і Барыс Гюнтэр ад Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96». Бараніў Яўгена Скочку адвакат Сяргей Лепеш. Па прапанове Г.Паганяйлы абарончы бок узьняў пытаньне аб спыненьні крымінальнай справы з-за адсутнасьці складу злачынства. Падсудны раней адбыў за ўдзел у тым шэсьці 11 сутак адміністратыўнага арышту. У матывацыі прысутнічалі таксама спасылкі на недарэчную сітуацыю з некаторымі законамі, у якія напрыканцы існаваньня СССР пад уплывам пераменаў у грамадстве ўносіліся дэмакратычныя зьмены. У прыватнасьці, у саюзных законах была перагледжаная фармулёўка «масавых беспарадкаў» і адказнасьць за іх, але гэтыя зьмены практычна ня ўнесеныя ў беларускі Крымінальны кодэкс. Аднак прапанова не была прынятая.

У чым жа гэтая "небясьпека" і для каго? Зірнем на падзеі праз сьведчаньні падсуднага і шматлікіх сьведкаў. У канцы студзеня ў Мінскі гарвыканкам былі пададзеныя дзьве заявы на правядзеньне шэсьця «Беларусь – у Еўропу». Улады далі дазвол толькі на правядзеньне мітынгу каля Палацу спорту, а збор на пляцы Волі забаранілі. Замест абыходу амбасадаў усімі ўдзельнікамі акцыі гарвыканкам прапанаваў, каб петыцыі-віншаваньні аднесьлі адрасатам дэлегацыі ад моладзі па два-тры чалавекі. Згодна з заканадаўствам, адказ уладаў павінен быць даведзены да ведама заяўляльнікаў не пазьней як за пяць сутак да пачатку акцыі. Аднак ліст з гарвыканкаму запазьніўся. Затое ўсе чацьвёра заяўляльнікаў былі выкліканыя для гутаркі ў будынак гарадзкой адміністрацыі. Трое з іх (В.Канапацкі, А.Пятроў і А.Янукевіч) адмовіліся праводзіць акцыю ў прапанаваным уладамі выглядзе. Гэта было зроблена часткова з-за нежаданьня "падставіць" моладзь пад новыя арышты, але мела месца і звычайнае запалохваньне лідэраў Маладога Фронту. Скажам, ранкам 12 лютага дадому да А.Янукевіча міліцыянты прывезьлі позву ў міліцыю. Яўгену Скочку, па яго ных словах, пагражалі турмой. Але з самога пачатку ён заявіў, што ў выпадку зьмяненьня хоць аднаго з пунктаў заяўкі ня можа браць на сябе адказнасьць за наступствы. Забарону шэсьця і прызначэньне мітынгу на прасьпекце Машэрава, дзе разносіцца гучная музыка з кінатэатру насупраць, Скочка назваў правакацыяй уладаў. «Пакінуць моладзь, якая ўсё роўна традыцыйна зьбіраецца ў Дзень закаханых на пляцы Волі, я ня мог, памятаючы, што ў мінулым годзе нават збор на гэтым месцы скончыўся затрыманьнямі», — гаворыць Яўген.

У ліку сьведкаў па гэтай справе суд выслухаў пяцёх супрацоўнікаў міліцыі, чатырох сяброў Маладога Фронту, а таксама трох маладых людзей, якія патрапілі ў месца правядзеньня акцыі выпадкова і былі затрыманыя міліцыяй. Цікава, што ніводзін са сьведкаў не ўзгадаў фактаў, якія сапраўды можна было б кваліфікаваць як беспарадкі. Міліцыянты на судзе ў адзін голас сьцьвярджалі, што альбо яны нічога ня бачылі – альбо шэсьце праходзіла вельмі прыстойна. Адзіным спрэчным момантам заставалася "спыненьне транспарту" каля амбасады ЗША, дзе і сапраўды на працягу некалькіх хвілінаў рух быў перапынены. У гэтыя хвіліны ўдзельнікі шэсьця стаялі ды чакалі, пакуль ад іх імя трое дэлегатаў уручаць петыцыю. Адзін з супрацоўнікаў міліцыі, які назіраў за акцыяй, зьвярнуў увагу суда, што на вуліцы, дзе стаяла моладзь, вельмі вузенькія ходнікі: «Там проста не было куды падзецца». Увогуле, міліцыянты адзначалі арганізаванасьць шэсьця і адсутнасьць агрэсіўнасьці ў калоне моладзі.

Адзіную прэтэнзію да Яўгена Скочкі выказаў падпалкоўнік Мікалай Вількота – намесьнік начальніка аддзелу ГУУС Мінгарвыканкаму. На думку Мікалая Мікалаевіча, такі выдатны арганізатар як Яўген мог бы ўзгадніць з міліцыяй нечаканы «прыгожы фейерверк» насупраць амбасады Летувы: «Усё-ткі ў нас ёсьць сьпецыялісты, а гэта ж агонь», — непакоіўся падпалкоўнік. Аднак Скочка сьцьвярджаў, што фейерверк быў нечаканы для яго самога. Адбыўся ён, дарэчы, пасьля таго, як Яўгену ўручылі позву ў РАУС – мабыць, нехта вырашыў выказаць такім чынам свой пратэст... Самі міліцыянты лічаць, што прычынай уручэньня позвы стала тое, што падсудны не адмовіўся ад акцыі і прысутнічаў на ёй. І толькі.

На момант напісаньня гэтых нататак яшчэ невядома, які вердыкт вынясе суд (ён прадоўжыцца ў чэрвені). Хочацца верыць, што Яўгена Скочку апраўдаюць, аднак, улічваючы практыку нашых судоў, верагодней выглядае прагноз аб умоўным асуджэньні...

**Яна ЖДАНОВІЧ**

---

# Перамога ці паражэньне?

*(Пачатак на стар. 1)*

Нягледзячы на тое, што пасьля гэтага частка сяброў БНФ практычна ўхілілася ад удзелу ў выбарах, выбарчая кампанія была даведзеная да канца. Аднак, паколькі падчас перадвыбарчай кампаніі не было ўсебаковага і свабоднага абмеркаваньня праграмаў кандыдатаў і вядзеньня агітацыі за іх, а таксама з-за перашкодаў, што чынілі ўлады правядзеньню выбараў і шматлікіх парушэньняў заканадаўства, вынікі галасаваньня па кандыдатах у прэзідэнты прызнаныя несапраўднымі.

Такім чынам, чатырохмесячная выбарчая кампанія завяршылася тым, з чаго пачалася. Што далей? Цэнтрвыбаркам пастанавіў прызначыць паўторныя выбары прэзідэнта Беларусі на працягу трох месяцаў пасьля гэтых выбараў з паўторным вылучэньнем кандыдатаў у прэзідэнты. Але адбыцца яны могуць толькі пры ўмове жорсткага кантролю з боку АБСЕ і іншых міжнародных арганізацыяў.

Вядома, прайшоўшыя 16 траўня прэзідэнцкія выбары большасьць назіральнікаў ад пачатку лічыла выключна палітычнай акцыяй, якая магла мець значэньне толькі як свайго роду сацыялагічнае дасьледаваньне, а не як сродак даць краіне новага прэзідэнта. Але тое, што ва ўмовах жорсткага супраціву ўладаў выбары былі даведзеныя да канца, што дата 20 ліпеня (заканчэньне тэрміну паўнамоцтваў А.Лукашэнкі) цяпер ва ўсіх на слыху, што значная колькасьць грамадзянаў нават пад пагрозай рэпрэсіяў адкрыта і рашуча выступіла супраць рэжыму, што народ цяпер зьвязвае свае надзеі на лепшае найперш са зьменай кіраўніка дзяржавы — дае падставы сьцьвярджаць, што праца па арганізацыі і правядзеньні выбараў прэзідэнта РБ была своечасовай і недарэмнай.

**Андрэй НАЛІВА**

## Юлія ЧЫГІР:

# "Веру, што зьмена ўлады ў краіне адбудзецца хутка..."

### Гутарка карэспандэнта бюлетэня "Права на волю" з жонкай, паплечніцай і адвакатам кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, а цяпер вязьня сумленьня Міхаіла Чыгіра — Юліяй ЧЫГІР

***— Юлія Станіславаўна, як ідзе расьсьледаваньне крымінальнай справы супраць Вашага мужа?***

— На гэтае пытаньне я нават адказаць цалкам не магу, бо мне далі дазвол быць абаронцам мужа, і я падпісала пэўныя абавязацельствы. Многія з фактаў сьледства я ня маю права разгалошваць. У тых рамках, у якіх мне дазволена, скажу, што я пазнаёмілася са справай і была вельмі ўзрушаная тым, што шмат дакументаў сфальсіфікавана. Я нават зараз падаю заявы аб узбуджэньні крымінальных справаў супраць людзей, што задзейнічаныя ў расьсьледаваньні, бо ў справе ёсьць падложныя, фальшывыя дакументы, якія сфабрыкаваныя. Прычым — вельмі груба і відавочна.

***— Як зараз сябе пачувае Міхаіл Мікалаевіч? У якіх умовах ён знаходзіцца? Другі кандыдат у прэзідэнты Беларусі спадар Пазьняк, вы пэўна ведаеце, распаўсюдзіў свае версіі наконт ягонага ўдзелу ў выбарах і арышту...***

— Я дакладна ня ведаю, што казаў і пісаў Пазьняк, але да мяне даходзілі чуткі, што ён лічыць, нібыта ўсё, што адбылося і адбываецца з Чыгіром — спланаваная кэдэбістамі акцыя... Ня буду гэта каментаваць, але калі б спадар Пазьняк прыехаў сюды, то ня выключана, што і сам ён апынуўся б там жа, у ізалятары. Думаю, калі ён папрасіў, то яго пасадзілі б у камеру да Чыгіра... Гэта адно. Другое. Хачу сказаць, што на сёньняшні дзень у майго мужа ня самыя горшыя ўмовы, калі параўноўваць іх з умовамі іншых людзей, што там знаходзяцца. З ім не сядзяць забойцы, з ім не сядзяць людзі з жаданьнем за нешта помсьціць Чыгіру. Яго ня б'юць, не катуюць. Гэта так. Але ўсё астатняе... Турма ёсьць турма...

***— Як Вы зараз успрымаеце, азіраючыся назад, вынікі выбарчай кампаніі? Вам ня крыўдна, што так атрымалася? Некаторыя кажуць: ніякіх зьменаў няма, перамогі над рэжымам не атрымалася, а Чыгір – у турме...***

— Я не лічу, што не атрымалася ніякай перамогі. Я хачу сказаць, што калі Міхаіл Мікалаевіч згаджаўся ўдзельнічаць у гэтай акцыі, у выбарах, ён не спадзяваўся, што стане прэзідэнтам. І ня дзеля гэтага ён заяўляў пра сваё жаданьне і сваю гатоўнасьць удзельнічаць у выбарчай кампаніі. Ён заявіў пра гэта таму, што разумеў: камусьці патрэбна ўдзельнічаць у выбарах, абвешчаных Вярхоўным Саветам. Бо калі б не знайшлося людзей, якія б не пабаяліся зарэгістраваць сябе ў якасьці кандыдатаў, то гэтая акцыя скончылася б яшчэ тады, калі яна пачыналася – у студзені, і не было б ніякай гаворкі пра выбары. Тое, што за гэтыя амаль паўгода ўдалося абудзіць грамадзкасьць, прыцягнуць да Беларусі ўвагу міжнароднай супольнасьці – хіба гэта не станоўчы вынік? У нас была магчымасьць падняць многіх людзей, якія хадзілі па хатах, агітавалі, тлумачылі, чаму выбары павінны быць менавіта ў гэтым годзе – хіба гэта ня праца, хіба гэта ня вынікі ўсёй кампаніі?

Не пагаджаюся і з тым, што гавораць пра нібыта раскол у апазіцыі. Я не сказала б, што ён ёсьць – людзі яднаюцца і размяжоўваюцца вакол розных думак, вакол розных меркаваньняў наконт таго, што рабіць далей, якім шляхам ісьці. Мне думаецца, гэта таксама добра. На месцах, у вёсках, у раённых цэнтрах усе працавалі разам, прадстаўнікі розных партыяў рабілі справу гуртам. Выбары паднялі людзей на барацьбу з існуючай уладай таму, што людзі пачалі спадзявацца на магчымыя зьмены. А што яны будуць хуткімі, што мы пераможам 16 траўня – ні Чыгір, ні тыя, хто пачынаў гэтую справу, не спадзяваліся. Мэта ставілася такая: прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасьці, нагадаць усім, што 20 ліпеня ў Лукашэнкі заканчваецца тэрмін легітымнасьці, і заявіць, што народ Беларусі ня згодны з тым, што ён мяркуе падоўжыць на два гады тэрмін сваіх паўнамоцтваў. Калі б мы не зрабілі такую спробу, дык наіўна было б думаць, што міжнародная супольнасьць 20 ліпеня за нас вырашыла б гэтую праблему. Калі вы фактычна нічога ня робіце супраць відавочных парушэньняў законаў і Канстытуцыі ўладамі, калі вы ніяк не заяўляеце пра свой супраціў гэтаму – то чаму немцы ці англічане, ці палякі павінны адлучаць Лукашэнку ад улады?

Тое, што Чыгір у турме сёньня, мне, як нікому, балюча ўсьведамляць і адчуваць. Асабліва цяпер, пасьля таго, як некаторыя з тых людзей, што спадзяваліся на перамогу 16-га траўня і толькі з-за гэтага былі побач, адразу ж, калі Міхаіл Мікалаевіч патрапіў за краты, адвярнуліся ад яго і адыйшлі ад удзелу ў выбарах. Як я разумею – здрадзілі гэтай справе. Бо ў такіх сітуацыях людзі правяраюцца. Тое, што ён арыштаваны – страшна, балюча. Але, значыць, лёс яго такі, значыць, прайсьці яму трэба праз гэта. Але я ведаю, што па жыцьці Міхаіл Мікалаевіч ніколі ня зьдзейсьніў нешта такое, што караецца Крымінальным кодэксам. І хто б што ні казаў: ці Лукашэнка, ці сьледчыя, колькі б ні шукалі крыміналу – яны


Юлія ЧЫГІР

яго ня знойдуць. Бо яго няма, не існуе ў прыродзе. І таму я лічу, што муж выйдзе з турэмнай камеры тады, калі ўдасца адлучыць ад улады Лукашэнку. Калі на яго месца будзе абраны альбо прызначаны нехта іншы. Раней гэта не адбудзецца. Хацелася б верыць у адваротнае, але цяжка на гэта спадзявацца.

Я веру, што зьмена ўлады ў Беларусі адбудзецца хутка. Супраць Лукашэнкі сёньня ня толькі апазіцыя, супраць яго тыя непазьбежныя працэсы,што адбываюцца ў эканоміцы краіны. Я і Міхаіл Мікалаевіч, як эканамісты, разумеем, што адбываецца з эканомікай, і ведаем: калі нават прэзідэнту і ўдасца гвалтоўна ўтрымліваць уладу, то эканамічны крызіс прымусіць катэгорыі насельніцтва, якія сёньня яшчэ вераць яму, стаць побач з тымі, хто не жадае яго бачыць прэзідэнтам ужо цяпер.

***— Лукашэнка днямі выдаў указ, які забараняе рост цэнаў на 59 тавараў і паслугаў...***

— Так. Мы гэта ўжо праходзілі! Калі штучна прытрымліваць цэны, што адбудзецца? Абсалютна ўсё ён ня зможа рэгуляваць, бо гэта немагчыма. Значыць, кошты на тавары, якія не зьяўляюцца таварамі першай неабходнасьці, узрастуць яшчэ больш. А тавары першай неабходнасьці будуць паступова зьнікаць з крамаў. Гэта законы эканомікі, а ён выдае такі ўказ... Я ўвесь час кажу: ну хай бы пашкадаваў жанчын ды выдаў указ – скараціць тэрмін цяжарнасьці жанчыны з дзевяці да трох месяцаў! Гэта тое ж самае! Толькі

(Працяг на стар. 4-5)

# "Веру, што зьмена ўлады ў краіне адбудзецца хутка..."

(Пачатак на стар. 3)

ў гэтым выпадку мы разумеем, што такое немагчыма, а эканоміка – больш абстрактная. Несьпецыяліст можа не разумець, што ў законы эканомікі ня ўлезеш сілавымі ўказамі. Эканоміку не пасадзіш у турму, не запалохаеш і не загадаеш ёй рабіць так, як табе хочацца.

***— Юлія Станіславаўна, ці знайшла міліцыя злачынцаў, што абрабавалі перадвыбарчы штаб Чыгіра?***

— Дзяўчына, якая валодае памяшканьнем, дзе праходзяць сустрэчы нашай групы, не падавала заяву ў міліцыю. Не падавала таму, што мы ўжо і так практычна ведаем, хто быў там у ноч рабаўніцтва. Ведаем, якія машыны стаялі побач з домам, куды грузілі скрадзеныя рэчы. Пра ўсё гэта нам распавялі людзі з суседніх дамоў, якія бачылі, што адбывалася. Але, па-першае, гэтыя людзі баяцца адкрыта сьведчыць. Па-другое, мы добра разумеем, дзеля чаго гэта было зроблена. Дзеля таго, каб у сьледчых была магчымасьць правяраць усіх, хто ўваходзіць у гэтую кватэру, у любы момант, праводзіць допыты...

***— Вядома, што яшчэ калі Ваш муж быў на пасадзе прэм'ер-міністра, былі спробы сфабрыкаваць супраць яго крымінальную справу. У прыватнасьці, «выбіць» з арыштаваных міліцыяй людзей паказаньні, што Вашыя муж і сын нібыта крымінальнікі. Як Вы гэта пракаментуеце?***

— Было шмат падобных выпадкаў. Першы з іх меў месца ўжо праз два тыдні пасьля таго, як муж пачаў працаваць на пасадзе прэм'ера. Выпадак адбыўся з малодшым сынам. Старэйшы сын у нас больш спакойны, можа дзень правесьці за кампутарам, а малодшы – вельмі кантактны і адкрыты да людзей. Напэўна, менавіта таму яму і даставалася.

Аднойчы сын вяртаўся на машыне з Польшчы. На ўезьдзе ў Мінск машыну раптам разьвярнула ўпоперак трасы. Гэта было ў 4 гадзіны раніцы. Сын убачыў, што адзін нічога ня зробіць і, каб хто-небудзь у цемры не сутыкнуўся з ягоным аўтамабілем, расклаў побач вогнішча і пехам пайшоў за нейкі кіламетр на пост ДАІ. Папрасіў затэлефанаваць да сяброў, каб прыехалі дамаглі, а ў адказ пачуў: «Тут пост, а не перагаворны пункт». Самі даішнікі дапамагчы адцягнуць машыну адмовіліся. На пытаньне, што будзе, калі нехта ўрэжацца ў машыну пасярод трасы (быў вялікі туман), яны адказалі: калі нехта ўрэжацца – тады мы і пад'едзем на месца здарэньня. Сын абурыўся і ў адказ атрымаў спачатку кулаком у твар, а потым наогул быў зьбіты міліцыянтамі і адвезены ў РАУС. За той час, што сын знаходзіўся ў міліцыі, яго машына была разьбітая і абрабаваная. Калі пачалі разьбірацца (справа дайшла ажно да міністра ўнутраных справаў — тады ўжо ім быў Агалец), міліцыянты пыталіся: «Што ж ты адразу не сказаў, што ты – сын Чыгіра?». Нібыта, калі перад імі сын не прэм'ер-міністра, а іншага грамадзяніна, то абражаць яго і зьбіваць можна! Былі і іншыя выпадкі, калі Сашу зьбівалі, а потым задавалі тое ж самае пытаньне...

***— Вашыя дзеці хіба ніколі не скарыстоўвалі тое, што іхні бацька займае высокую пасаду?***

— У нас так рабіць ніколі не было прынята. Калі сыны былі малымі, Міхаіл Мікалаевіч працаваў у ЦК КПБ, але ў іх і паняцьця не было, што гэта такое. Дзеці ня раз казалі, што разуменьне іншымі, хто іх бацька, аддаляе іх ад звычайнага жыцьця. А Саша ўвогуле аднойчы сказаў мне: «Мама, можа мне прозьвішча на тваё дзявочае зьмяніць?». Настолькі гэтая вядомасьць яму жыцьцё ўскладняла!..

Самы жудасны выпадак адбыўся акурат за некалькі месяцаў да адстаўкі. Калі ў першых здарэньнях не прагледжвалася сувязь паміж самім сутыкненьнем дзяцей з міліцыянтамі і ўладай, то на гэты раз яна была відавочнай. Аднойчы сын і некалькі ягоных сяброў пад'ехалі да магазіна «Юбілейны». Да іх падыйшлі людзі ў цывільным з машыны, якая за імі ўсьлед ехала. Невядомыя прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі і запатрабавалі паказаць дакументы. Усіх, акрамя Сашы, прымусілі падняць рукі і пакласьці іх на капот, а Сашу сталі зьбіваць. Ён упаў. Пасьля таго, як яго сталі біць нагамі па галаве, адзін з сяброў ня вытрымаў і падскочыў да тых людзей. На наступны дзень аказалася, што ў Сашы сатрасеньне мозгу. Мы яго паклалі ў шпіталь, а па нумары машыны былі ўстаноўленыя асобы, якія зьбівалі яго. Усе, акрамя аднаго чалавека. Таго, хто біў нагамі па галаве.

Па маім запатрабаваньні была ўзбуджаная крымінальная справа. Міхаіл Мікалаевіч паставіў пытаньне перад прэзідэнтам. Супрацоўнікамі службы бясьпекі Галоўкіным і Рабавалавым была праведзеная праверка факту зьбіцьця сына. Вось вытрымкі з дакладной запіскі прэзідэнту:

«Па сьцьвярджэньні супрацоўнікаў міліцыі маёра Бароўскага І.К. (старшага групы) і сяржанта Шчэпка А.Ф. (кіроўцы), удзельнікамі (інцыдэнту) былі 4 супрацоўнікі (у тым ліку 1 жанчына) і двое знаёмых Бароўскага І.К., якія выпадкова аказаліся ў гэтым месцы... Чыгір А.М. сьцьвярджае пра факт алкагольнага ап'яненьня ўсіх міліцыянераў (апроч кіроўцы). Гэтую акалічнасьць Бароўскі І.К. і Шчэпка А.Ф. пацьвярджаюць толькі ў адносінах да двух чалавек, *якія не ўваходзілі ў склад нараду». «...* прадпрымалася спроба перадаць справу па дасьледваньні ў пракуратуру, аднак (са словаў Елманава В.І.) начальнікам сьледчага упраўленьня Пракуратуры РБ Мацелем у гэтым адмоўлена».

Як бачыце, пракуратура ўхілілася ад расьсьледаваньня справы. Яна была заведзеная сябрамі злачынцаў, якія сядзелі і дагэтуль сядзяць побач з імі ў кабінетах. Сын знаходзіўся ў шпіталі, і служба аховы прэзідэнта спрабавала вывезьці яго некуды, і толькі маё ўмяшальніцтва перашкодзіла гэтаму. Крымінальная справа сьледчай Шпак «прыпыненая», бо ёй аказалася не пад сілу ўстанавіць, хто менавіта біў Сашу па галаве!

А тое, што чацьвёра супрацоўнікаў міліцыі спакойна стаялі і глядзелі на гэта, а потым забралі злачынцу да сябе ў машыну – нібыта не зьяўляецца ні саўдзелам, ні ўтойваньнем злачынства!

***— Як я зразумела, гэта было перад апошнім рэферэндумам?***

— Гэта было ў чэрвені 96-га году. У чэрвені ж быў і выпадак з Алесем Вечарам. На гэтага чалавека, які знаходзіўся ў апазіцыі да ўлады, была заведзеная крымінальная справа — па надуманых прычынах. Яго прымушалі даць сьведчаньні, што нібыта ён сам, наш сын, сын Багданкевіча і Аляксандр Пупейка зьвязаныя ў адзіную крымінальную групоўку, якая незаконна ганяе машыны з замежжа. Для таго, каб прымусіць Алеся Вечара даць такія паказаньні, да яго, як ён


Мінск, мітынг 24 траўня 1999 г.

распавядаў, прымяняліся катаваньні. Трохі раней была ўзбуджаная крымінальная справа супраць Дзьмітрыя Булычава, якога таксама прымушалі да ілжэсьведчаньняў супраць нашай сям'і. Хацелі, каб ён назваў сваім саўдзельнікам Сашу. Ён таксама не зламаўся і «патрэбных» сьведчаньняў ня даў. Гэтыя людзі заявілі, што іх прымушалі ілжэсьведчыць. У выніку іх асудзілі на тэрміны зьняволеньня, якія зусім не адпавядаюць цяжкасьці іхніх правапарушэньняў.

Я магла б назваць дзесяткі такіх справаў. І, акрамя таго, па рэспубліцы з устойлівай перыядычнасьцю распаўсюджваліся зьвесткі аб нашай сям'і і дзецях, якія не адпавядалі сапраўднасьці. Прыязджаюць людзі з Гродзенскай вобласьці, з Гомельскай у адзін і той жа час і распавядаюць пра адну і тую ж чутку. Прабачце мне, але ж усе ведаюць, вы самі чыталі ў прэсе, што сын Лукашэнкі страляў па наведвальніках бара. Пра гэта вельмі хутка перасталі гаварыць, а ў глыбінцы ня ведаюць зусім. Няўжо інтарэс да нашай сям'і большы, чым да сям'і прэзідэнта? Лічу, што чуткі пра нашу сям'ю распускаюцца сьпецыяльнымі органамі, сьпецыяльнымі людзьмі. З зайздросным пастаянствам ствараўся вобраз крымінальнай сям'і, каб скампраментаваць нашу сям'ю і ціснуць на майго мужа праз дзяцей.

***— Значыць, пэўныя колы Міхаіл Чыгір не задавальняў яшчэ ў часы свайго прэм'ерства?***

— Вядома. Усе лічаць, што Лукашэнка браў у сваю каманду людзей, на якіх меў кампрамат. І на самой справе ёсьць такі момант. Але ў адносінах жа да Чыгіра я разумею сітуацыю так. На той момант, мне здаецца, прызначэньне Чыгіра было зьвязана з тым, каб закрыць пытаньне аб палітычным крызісе, сфармаваць урад. Супраць Міхаіла Мікалаевіча ў Лукашэнкі не было кампрамату. А далей яму спатрэбіліся нейкія рычагі, праз якія можна б было кіраваць Чыгіром. Рознагалосьсі ў іх пачаліся з самых першых дзён. Чаму ўзьніклі два бюджэты? Лукашэнка не давяраў Чыгіру, ён ня мог даверыць яму свае таемныя разьлікі, таемныя пытаньні. Я ведаю, што муж адразу адмовіўся фінансаваць вельмі дарагі рамонт рэзідэнцыі прэзідэнта. Муж адмовіўся выдаваць Лукашэнку нейкія грошы, зьвязаныя з ростам ягонага дабрабыту на прэзідэнцкай пасадзе. Чыгір быў патрэбны паслухмяным, каб на яго можна было ціснуць. Таму і рабіліся спробы кампраментацыі.

З іншага боку, я думаю, што гэта проста стыль працы Лукашэнкі. Можа, гэта супадзеньне, але ня толькі на нашую сям'ю аказваўся ціск праз дзяцей. Я, напрыклад, ведаю, што зьбівалі дзяцей Ціцянкова. Зьбівалі і дзяцей Віньнікавай. Гэта толькі тое, што я ведаю, а хто ведае ўвогуле, колькі сем'яў пацярпела ад гэтага?

***— Тое, пра што Вы распавядаеце – жахліва.***

— Так. Але пра ўсе жахі не распавядзеш! Тое, што я расказала – толькі невялікая частка іх... Спадзяюся, рана ці позна яны ўсё ж скончацца. Ня толькі для мяне, для маёй сям'і, але і для ўсіх, хто апынуўся ў такім як мы становішчы, для ўсёй краіны.

**Гутарыла**
**Тацяна СЬНІТКО**

*Пошта*

# Выбары: погляд з глыбінкі

У сваёй роднай вёсцы Гурнаўшчына Клецкага раёну галасаваньне па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь мне, як сябру раённай выбарчай камісіі, параілі правесьці 10 траўня. Што я і зрабіў. Вёска нашая невялікая, мяне ўсе ведаюць, і таму калі я заходзіў у хату са скрыняй для галасаваньня і бюлетэнямі, ніхто гэтаму не зьдзіўляўся. Пра тое, што цяпер у краіне адбываюцца выбары прэзідэнта, ведалі ўсе. А вось перадвыбарчыя праграмы кандыдатаў — не. Тыя, хто ў нечым сумняваўся, выкрэсьлівалі абодвух кандыдатаў (пра гэта я даведаўся потым), але ў выбарах прымалі ўдзел усе, каго я наведаў.

У той вечар я пасьпеў абыйсьці дзесяць хатаў. Прагаласавала дзевятнаццаць чалавек. Але пабываць ва ўсіх дамах маёй вёскі мне не ўдалося. З райцэнтру прыехала некалькі міліцыянтаў, якія сказалі мне, што нехта паведаміў ім, што я займаюся "супрацьпраўнай дзейнасьцю". Міліцыянты адвезьлі мяне ў Клецк. З сабою яны ўзялі скрыню для галасаваньня, а таксама двух панятых — жыхароў нашай вёскі.

З бабулькай-калгасьніцай, што стала "панятой", адбыўся, можна сказаць, анекдатычны выпадак: яна ніяк не магла ўцяміць, за што яе ўзялі міліцыянты, і ўсю дарогу перажывала. Думала: ці не за "самагон". У міліцыі ледзь не дайшло да скандалу: бабулька крыкам хацела даказаць, што яна ні ў чым не вінаватая. Я, шкадуючы бабульку, вырашыў яе супакоіць. Сказаў, каб яна не хвалявалася, бо яе выклікалі па справе выбараў прэзідэнта Беларусі. Бабулька адразу ж зьмянілася ў твары і кінулася да міліцыянтаў: "Хлопцы, дзе мне галасаваць? Давайце я прагаласую..." Міліцыянты доўга рагаталі з недалёкай бабулькі.

Сьледчы дапытваў мяне перад відэакамерай. Як потым выявілася, дзеля таго, каб паказаць мясцовага "іншадумцу" супрацоўнікам КДБ з Мінску, якія дзеля гэтага сьпецыяльна прыязджалі ў Клецк. Чыстыя бюлетэні, што засталіся ў мяне, міліцыянты канфіскавалі, а скрыню для галасаваньня ўзламалі. Тут жа былі "падведзеныя" своеасаблівыя "вынікі" галасаваньня ў маёй вёсцы. У скрыні аказалася 19 бюлетэняў. У сямі з іх былі выкрэсьленыя абодва кандыдаты, дзесяць маіх землякоў аддалі свой голас за Пазьняка, а два — за Чыгіра.

Пасьля допыту мяне адвялі ў Клецкую раённую пракуратуру, дзе пракурор, малодшы дарадца юстыцыі А. С. Гайдыш выпісаў мне "афіцыйнае папярэджаньне аб недапушчальнасьці парушэньня закону", згодна з якім мяне абяцалі прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці па арт. $166^9$ Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэньнях РБ. На словах пракурор забараніў мне выязджаць з маёй вёскі да 17 траўня, пагразіўшы, што пры парушэньні гэтага загаду мяне чакае турма. А пад вечар я ўжо быў дома. Такім чынам скончыўся мой удзел у выбарах прэзідэнта Беларусі.

Якія высновы я магу зрабіць з таго, што адбылося? Нават у вёсцы людзям абрыдла бязладзьдзе, што дзеецца ў нашай краіне. Яны хочуць зьменаў, яны гатовыя за іх прагаласаваць, яны зразумелі, што тое, наколькі рэальнымі будуць тыя зьмены, залежыць толькі ад іх саміх...

**Алег НІКУЛІН**

*Клецкі раён*

# «Навіны» чакае лёс «Свабоды»?

26 траўня атрымала папярэджаньне ад Дзяржкамітэту па друку рэдакцыя незалежнай газеты «Навіны». Падставай стаўся артыкул аднаго з журналістаў газеты пад назовам «Карбункулы законнасьці», у якім адлюстроўваўся вобраз сучаснага супрацоўніка міліцыі. Што праўда, вобраз у аўтара атрымаўся ня дужа прывабным, але многія чытачы адзначылі гэты матэрыял за прасякнутасьць гумарам і трапнасьць характарыстык. Аднак Дзяржкамдрук, прааналізаваўшы артыкул, знайшоў у ім «распальваньне сацыяльнай варожасьці».

Гэта ўжо трэцяе афіцыйнае папярэджаньне, вынесенае «Навінам» з вясны мінулага году. Згодна з уведзенымі паўтары гады таму новымі палажэньнямі Закону «Аб друку і іншых СМІ», у выпадку атрыманьня рэдакцыяй больш за два папярэджаньні на працягу году выданьне падлягае закрыцьцю праз суд.

Як вядома, газета «Навіны» – пераемніца знакамітай «Свабоды», якая працэдуру сваёй ліквідацыі перажыла напрыканцы 1997 году. Адроджаная праз колькі месяцаў пад новай назвай, папулярная газета па-ранейшаму не ў фаворы ва ўладаў. Да барацьбы з апазіцыйным выданьнем далучыліся і камунальныя службы. 20 траўня, якраз ў час, калі вярстаўся новы нумар газеты з інфармацыяй пра вынікі прайшоўшых толькі што прэзідэнцкіх выбараў, у рэдакцыі раптоўна была адключаная электрычнасьць.

**Наш кар.**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*16 траўня* ў Маскоўскім раёне г.Мінска выбаршчыкамі пад кіраўніцтвам дэпутата ВС 12-га скліканьня Сяргея Антончыка, які жыве ў межах гэтага выбарчага участку, быў арганізаваны стацыянарны пункт для галасаваньня. Для арганізацыі галасаваньня быў выкарыстаны стары аўтобус. Галасаваньне праводзілася з захаваньнем усіх прадугледжаных законам працэдураў: у аўтобусе была ўтвораная кабіна для тайнага галасаваньня, прысутнічалі сябры ўчастковай камісіі і назіральнікі. Адсутнічалі сьпісы выбаршчыкаў, але бюлетэні выдаваліся толькі пры прад'яўленьні пашпарту людзям, якія пражываюць у дамах на гэтым участку. Галасаваньне праходзіла з 9.30 да 19.15. З 2100 чалавек, якія мелі права голасу, удзел у галавасаньні ўзялі 1180 чалавек. За ходам выбараў назіралі дзесяткі журналістаў як з Беларусі, так і з іншых краінаў свету. Назіралі таксама прадстаўнікі АБСЕ на чале з Адрыянам Севярынам. У 19.15 арганізатарам стала вядома пра намер праваахоўных органаў затрымаць сяброў камісіі, арганізатараў выбараў і канфіскаваць бюлетэні і сьпісы прагаласаваў-шых. У 19.20 арганізатары прынялі рашэньне спыніць галасаваньне, і сябры камісіі ўсе разам зайшлі ў пад'езд дома, які стаяў побач з аўтобусам, дзе праводзілася галасаваньне. Праз дзьве хвіліны пад'езд быў заблакаваны людзьмі са сьпецслужбаў, якія паспрабавалі арыштаваць арганізатараў выбараў. Выкарыстаўшы распрацаваную методыку адыходу, сябры камісіі змаглі пазьбегнуць арышту і зьберагчы дакументы.

*16 траўня* ў Гродна ў 11.10 былі арыштаваныя сябры ўчастковай выбарчай камісіі Алесь Барэль і Казімір Локіць, якія на адкрытым участку (вул. К.Маркса) праводзілі выбары. Міліцыянты склалі пратаколы, сканфіскавалі скрыні для галасаваньня, 500 бюлетэняў. Там жа былі затрыманыя сябры Гродзенскай гарадзкой выбарчай камісіі Валянцін Лучко і Мікола Воран, якія прысутнічалі падчас галасаваньня як назіральнікі. Супрацьпраўныя дзеяньні міліцыянтаў зафіксаваныя прысутным пры гэтым сябрам мясцовай філіі Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" адвакатам Уладзімірам Кісялевічам. У 11.30 былі арыштаваныя сябры ўчастковай камісіі Яўген Чыгір і Зьміцер Качан, якія на выбарчым участку ў мікраёне Фарты праводзілі галасаваньне. Складзеныя пратаколы, канфіскаваныя скрыня для галасаваньня, 66 бюлетэняў. Праведзены вобыск у асабістым аўтамабілі сп. Качана, канфіскаваныя 143 бюлетэні. Там жа затрыманы сябра Гродзенскай гарадзкой выбарчай камісіі Юрась Мацко і прадстаўнік Хельсінкскага камітэту Аляксандр Парадкаў, якія прысутнічалі падчас галасаваньня як назіральнікі. У 13.00 на рынку "Паўднёвы" затрыманыя сябры ўчастковай камісіі Віктар Сухі і Міхась Чарнушчык, а таксама сябра Гродзенскай гарадзкой выбарчай камісіі Пётр Анісімовіч. Міліцыянты склалі пратаколы, канфіскавалі скрыні для галасаваньня, 1419 бюлетэняў. Па тэлефоне рабочыя ГВА "Азот" запрасілі сяброў выбарчай камісіі на прахадную для правядзеньня галасаваньня. Сяброў камісіі, якія выехалі па выкліку выбаршчыкаў, сустрэлі на прахадных міліцыянты, якія спрабавалі затрымаць іх. У офісе абласной Рады БНФ галасаваньне працягвалася на стацыянарным выбарчым участку. Падчас галасаваньня ўчастак наведаў дзяжурны РАУС сп.Сітнікаў разам з нарадам. Яны спрабавалі навязаць сябрам камісіі сваю "ахову", матывуючы гэта тым, што ў міліцыю патэлефанаваў невядомы і пагражаў "кінуць на ўчастак гранату". Сябры камісіі адмовіліся ад такой "аховы".

*16 траўня* ў Слоніме (Гродзенская вобл.) былі арыштаваныя сябры ўчастковай камісіі па выбарах прэзідэнта Адам Ёрш і Алесь Масюк, якія на адкрытым участку на вуліцы праводзілі выбары. Міліцыянты склалі пратаколы, канфіскавалі скрыню для галасаваньня, бюлетэні.

*16 траўня* ў Мастах (Гродзенская вобл.) былі затрыманыя сябры выбарчых камісіяў Міхась Гладухаў і Язэп Палубятка падчас правядзеньня галасаваньня. На іх складзеныя пратаколы, канфіскаваныя скрыні для галасаваньня і бюлетэні.

*16 траўня* ў Зэльве (Гродзенская вобл.) на кватэру сябра выбарчай камісіі Юрася Качука, дзе быў наладжаны выбарчы ўчастак, увварваліся 7 міліцыянтаў на чале з загадчыкам аддзела райвыканкаму па прапагандзе. Канфіскаваная скрыня для галасаваньня і выбарчыя бюлетэні. Міліцыянты патрабавалі напісаць тлумачэньні, чаму праводзяцца выбары. Ю.Качуку далі позву на допыт да сьледчага.

*15-16 траўня* Эканоміка-юрыдычны ліцэй г.Баранавічы ладзіў у г.Ляхавічы адукацыйны семінар для моладзі па правах чалавека. 15 траўня семінар прайшоў плённа — былі праслуханыя і абмеркаваныя тэмы "Асноўныя правы чалавека: гісторыя і сучаснасьць" і "Права на жыцьцё". Раніца 16 траўня пачалася для ўдзельнікаў семінару з вобыскаў у пакоях мясцовага гатэлю, дзе яны спыніліся на начлег. Супрацоўніца ПЦ "Вясна-96" Тацяна Рэвяка распавядае: "Я спала, калі ў мой пакой бяз стуку ўвайшлі двое мужчынаў, адзін з якіх быў у міліцэйскай форме, другі — у цывільным. "Мы павінны агледзець вашыя рэчы", — прагучаў адказ на маё пытаньне, хто яны такія. "Гэта што — вобыск?" — спыталася я і пачула : "Не, мы проста пагляддзім". Супрацоўнік міліцыі і мужчына ў цывільным абшукалі шафу, стол і мае рэчы. Нічога не знайшоўшы, яны выйшлі з пакою. Апрануўшыся, я выйшла на калідор і ўбачыла, як гэтыя людзі павялі ў пастарунак Алеся Горбача. Праз некаторы час яны вярнуліся, каб забраць яшчэ і майго калегу Валянціна Стэфановіча. Калі я запыталася, куды і для чаго яго забіраюць, пачула ў адказ: "Для высьвятленьня некаторых пытаньняў". Наступная сустрэча з прадстаўнікамі ўладаў адбылася, калі яны прыйшлі ў гатэль, каб узяць тлумачальныя пра нашае знаходжаньне ў Ляхавічах. З маіх словаў супрацоўнік крымінальнага вышуку напісаў "объяснительную", якую я адмовілася падпісаць, паколькі яна была складзеная па-руску, а нашая размова адбывалася па-беларуску. Супрацоўнік міліцыі пагадзіўся, што ён ня меў права рабіць адвольны пераклад маіх словаў і прапанаваў тлумачальную пісаць самой. На маё пытаньне, чаму ён ня піша па-беларуску, адказаў, што судавытворчасьць вядзецца ў іх па-руску, а яшчэ таму, што можа нарабіць памылак". Супрацоўнікі міліцыі прапанавалі ўсіх удзельнікаў семінару на службовай машыне адвезьці да аўтавакзалу і пасадзіць у аўтобус — фактычна, дэпартаваць з Ляхавічаў. Ад такой паслугі ўладаў маладыя людзі адмовіліся і зьехалі з "гасьцінных" Ляхавічаў самастойна.

*18 траўня* ў ПЦ "Вясна-96" зьвярнуўся непаўналетні Зьміцер Касьпяровіч, які ў сваёй заяве напісаў наступнае: "У ноч з 18 на 19 траўня ў 00.30 я разам са сваім сябрам Паўлам Мягковым быў затрыманы на спуску з вежы кампаніі "Бел-сел" пасьля таго, як мы на ёй павесілі бел-чырвона белы сьцяг. Пасьля затрыманьня нас з Паўлам адвялі да міліцэйскай машыны і пачалі зьбіваць. Мяне білі кулакамі па нырках, нагамі па сьпіне і па нагах. Засталіся сінякі. Кожны з прысутных міліцыянтаў (каля 7 чалавек) як мінімум, па адным разе ўдарыў мяне нагой па сьпіне. Потым майму сябру пад пагрозай фізічнай расправы загадалі залезьці на вежу і зьняць сьцяг. Мяне ў гэты час паклалі на зямлю і прымусілі разьвесьці ногі і рукі ў бакі. Два міліцыянты каля 4-5 разоў ударылі мяне нагамі ў жывот, адзін — наступіў нагой на руку. У Савецкім РАУСе мы прасядзелі каля дзевяці гадзінаў без прад'яўленьня абвінавачваньняў. Перагаворваючыся паміж сабою, міліцыянты казалі, што няма артыкулу, па якім нас можна ў нечым абвінаваціць. На ўсе просьбы патэлефанаваць дадому нам адказвалі адмовай. Каля дзевяці раніцы прыйшоў капітан міліцыі, які склаў пратакол, у якім абвінавачваў мяне ў дробным хуліганстве. На пачатку адзінаццатай мяне адпусьцілі, папярэдне выклікаўшы маці, таму што я зьяўляюся непаўналетнім. Маці патэлефанавалі толькі ранкам. Лічу, што мае правы былі парушаныя". Павел Мягкоў быў асуджаны на пяць сутак адміністратыўнага арышту.

*19 траўня* ў Мінску адбылася прэс-канферэнцыя, арганізаваная Цэнтральнай выбарчай камісіяй, па выніках выбараў прэзідэнта РБ. Аналіз ходу прэзідэнцкай кампаніі паказвае, што ўлады выкарыстоўвалі рэпрэсіі, каб сарваць выбары. Па справе старшыні Цэнтрвыбаркаму В.Ганчара, які абвінавачваецца ў "самавольным прысваеньні званьня альбо ўлады службовай асобы" былі апытаныя 2.300 чалавек — сябры выбарчых камісіяў і актывісты выбарчай кампаніі. На прэс-канферэнцыі былі аб'яўленыя вынікі выбараў. Цэнтрвыбаркам прызнаў, што выбары адбыліся, аднак у частцы вынікаў галасаваньня па кандыдатах яны прызнаныя несапраўднымі. Старшыня Цэнтрвыбаркаму Віктар Ганчар назваў умовы, у якіх адбываліся выбары "анамальнымі" — ён меў на ўвазе масавыя рэпрэсіі, якім падвяргаліся сябры выбарчых камісіяў і актывісты выбарчай кампаніі. Але нягледзячы на рэпрэсіі, адзначыў В.Ганчар, сябры камісіяў зрабілі немагчымае — давялі выбары да канца.

*20 траўня* ў гарадзкім судзе Мінска пачаўся разгляд крымінальнай справы намесьніка старшыні Маладога Фрон-

ту Яўгена Скочкі. Яго судзяць за ўдзел у маладзёжнай акцыі "Беларусь у Еўропу" (14 лютага). Судовае пасяджэньне было перанесенае на 2 чэрвеня.

*21 траўня* ў Мінску ўвечары каля пад'езду дома невядомыя ў цывільным жорстка зьбілі П. Канавальчыка — галоўнага рэдактара незалежнай газеты "Навінкі", органа "Мінскага культурнага бамонду", што была заснаваная групай анархістаў у студзені 1998г. Газета сатырычна рэагавала на ўсе праявы жыцьця. Па словах адказнага сакратара "Навінак" Алеся Мазура, гэта маглі быць і звычайныя хуліганы, але нельга выключаць і таго, што П.Канавальчыка вырашылі правучыць прадстаўнікі сьпецслужбаў. З цяжкімі траўмамі П. Канавальчык быў дастаўлены ў бальніцу, дзе яму зрабілі аперацыю.

*24 траўня* ў Мінску на плошчы Якуба Коласа адбыўся мітынг у падтрымку былога прэм'ер-міністра Беларусі, кандыдата ў прэзідэнты РБ — зьняволенага Міхаіла Чыгіра. Жонка Міхаіла Чыгіра Юлія Чыгір паведаміла прысутным, што 24 траўня — дзень нараджэньня яе мужа. Менавіта ў гэты дзень (на тыдзень раней прызначанага тэрміну) М.Чыгіру паведамілі пра тое, што тэрмін яго зьняволеньня працягнуты яшчэ на два месяцы.

*26 траўня* Дзяржаўны камітэт па друку Беларусі вынес рэдакцыі незалежнай газеты "Навіны" чарговае папярэджаньне — другое на працягу года. Першае папярэджаньне было вынесенае за публікацыю інфармацыі пра выбары 16 траўня. Другое папярэджаньне вынесенае за артыкул Аляксандра Дубравіна "Карбункулы законнасьці". На думку Дзяржкамдруку, А.Дубравін распальвае ў грамадстве сацыяльную варожасьць і зьняважае супрацоўнікаў міліцыі.

*27 траўня* жыхар г.Баранавічы, ліквідатар наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС Аляксандр Набешка напісаў заяву на імя старшыні Канстытуцыйнага суда РБ, у якой абвінавачвае прэзідэнта РБ А.Лукашэнку ў парушэньні некаторых артыкулаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У прыватнасьці, дэкрэтам прэзідэнта №21 быў адменены арт. №19 "Аб ільготным выхадзе чарнобыльцаў на пенсію". А.Набешка просіць Канстытуцыйны суд даць прававую ацэнку дзеяньням прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама ў судовым парадку спагнаць з прэзідэнта РБ кампенсацыю матэрыяльных стратаў у памеры 50 мільярдаў рублёў. Гэтая сума, па планах А.Набешкі, павінна быць скарыстаная на стварэньне ў Баранавічах асацыяцыі ўдзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

*28 траўня* скончыўся суд над былым старшынёй акцыянернага таварыства "Расьсьвет", двойчы Героем Сацыялістычнай працы Васілём Старавойтавым. В.Старавойтаў з лістапада 1997 году ўтрымліваўся ў сьледчым ізалятары, яго абвінавачвалі ў шэрагу эканамічных злачынстваў. 3 лістапада 1998 году цягнуўся суд. Судовая камісія Кіраўскага раённага суда вынесла прысуд: В. Старавойтаву — два гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці. Па пяць гадоў атрымалі былы кіраўнік транспартнага цэху Аляксей Яўстратаў і былы начальнік рыбнай гаспадаркі "Расьсьвета"Алег Шапавалаў, якіх судзілі разам са Старавойтавым. Калі прысуд уступіць у сілу, В.Старавойтаву давядзецца правесьці за кратамі яшчэ пяць месяцаў.

# «Вясна-96» ладзіць супрацоўніцтва

Цэлы тыдзень, з 24 па 31 траўня, чацьвёра супрацоўнікаў ПЦ «Вясна-96» правялі ў Швецыі, а дакладней – у яе сталіцы Стакгольме. Знаходзіліся яны там па запрашэньні таварыства Svenska Freds, з якім Праваабарончы Цэнтр мае добрыя партнёрскія і сяброўскія адносіны.

Svenska Freds зьяўляецца старэйшым і самым вялікім у Скандынавіі таварыствам барацьбы за мір. Яно было заснаванае яшчэ ў 1883 годзе лаўрэатам Нобелеўскай прэміі К.П.Арнольдсанам. Адным з праектаў, над якім сёньня працуе таварыства, зьяўляецца наладжваньне цесных сувязяў з грамадзкімі арганізацыямі краінаў Усходняй Еўропы (Беларусі і Расіі) з мэтай сумеснай працы дзеля далейшага развіцьця дэмакратыі і супрацоўніцтва гэтых краінаў з Заходняй Еўропай. Менавіта ў гэтым накірунку будуецца сумесная дзейнасьць «Вясны-96» са Svenska Freds.


Беларускія праваабаронцы каля Шведскага рэйхстагу

Увосень мінулага году шведскія сябры наведалі Беларусь, а зараз запрасілі беларускіх партнёраў пазнаёміцца з іх краінай, дзейнасьцю сваёй і іншых грамадзкіх арганізацыяў, а таксама абмеркаваць сумесныя планы. Кіраўнік «усходняга» праекту Лінда Іссаксон і Генэральны сакратар Svenska Freds Йенс Петэрсан прапанавалі правесьці сумесны адукацыйны семінар у Беларусі сёлетняй восеньню з удзелам прадстаўнікоў рэгіянальных аддзяленьняў Svenska Freds і «Вясны-96», каб наладзіць больш цесныя стасункі ня толькі з цэнтральным офісам Праваабарончага Цэнтру, але і з ягонымі філіямі.

Кожны дзень быў насычаны цікавымі сустрэчамі і новымі знаёмствамі, але ўсё ж цэнтральнай падзеяй зьявіўся аднадзённы семінар, прысьвечаны палітычнай сітуацыі ў Беларусі. На гэтым семінары разглядаліся розныя аспекты ўзаемаадносінаў Швецыі і Беларусі: як на афіцыйным узроўні, так і на ўзроўні грамадзкіх аб'яднаньняў. Агульны стан беларускага грамадзтва абмаляваў журналіст Албін Абрахамсан; супрацоўнік МЗС Швецыі Стэфан Эрыксан пазнаёміў удзельнікаў семінару з узроўнем афіцыйных стасункаў дзьвюх краінаў; юрыст шведскага аддзяленьня Хельсінкскага Камітэту Роберт Хорд прааналізаваў адрозьненьні судовых сістэмаў Швецыі і Беларусі; Осе Фоссхауг з Forum Sud распавяла пра планы наладжваньня супрацоўніцтва на ўзроўні грамадзкіх арганізацыяў.

З беларускага боку выступілі Лада Бухарына (Асамблея няўрадавых арганізацыяў Беларусі) і старшыня ПЦ «Вясна-96» Алесь Бяляцкі. Выступленьне кіраўніка Праваабарончага Цэнтру выклікала вялікую зацікаўленасьць з боку шведскіх калегаў, і таму да А.Бяляцкага паступіла шмат пытаньняў, якія тычыліся ня толькі парушэньня правоў чалавека ў дзяржаве, але і шмат якіх іншых аспектаў жыцьця беларускай грамадскасьці.

За тыдзень, праведзены ў Стакгольме, беларускія праваабаронцы пазнаёміліся з многімі цікавымі людзьмі і арганізацыямі. Яны наведалі шведскі парламент, дзе сустрэліся з дэпутатам, прадстаўніком сацыял-дэмакратычнай партыі Тоне Тінгсгорд, якая неаднаразова была ў Беларусі і цікавіцца сёньняшнімі падзеямі ў нашай краіне. Супрацоўнікі «Вясны-96» даведаліся болей пра дзейнасьць шведскага аддзяленьня Amnesty International, якое наведалі, і дзе мелі размову з Брыта Грундзін на тэму сьмяротнага пакараньня.

Шмат новага даведаліся ад Евы Шчэлстрам — рэдактара часопіса Pax, які выдаецца Svenska Freds. На старонках гэтага выданьня можна было знайсьці ня толькі інфармацыю пра Беларусь, але і пабачыць на фотаздымках знаёмыя твары –. адзін з нумароў утрымліваў матэрыялы восеньскай сустрэчы шведскіх змагароў за мір з беларускімі праваабаронцамі ў Мінску.

У праграме знаходжаньня супрацоўнікаў «Вясны-96» у Швецыі было і наведваньне стакгольмскага сьледчага ізалятару «Кронобергсхэктэт». Намесьнік начальніка гэтай установы Матс Ландбрынг паказаў і распавёў пра жыцьцё зьняволеных. Беларускія праваабаронцы былі вельмі ўражаныя розьніцай паміж тым, што ёсьць на радзіме і тым, што яны ўбачылі ў скандынаўскай краіне.

Вядома, не пакінула абыякавымі беларускіх праваабаронцаў прыгажосьць Стакгольма, старажытнага горада з адметнай архітэктурай і культурай. Вольны час яны праводзілі ў знаёмстве з гісторыяй і традыцыямі шведскага народу.

## Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Васемнаццаць месяцаў у пекле

Сваё знаёмства са мною новы сьледчы распачаў словамі:

— Вось як бывае... Усё жыцьцё забойствы расьсьледваў, бандытызм... А тут...

Паведаміўшы яму, што знаходжуся на галадоўцы, я адмовіўся даваць паказаньні, пакуль ня буду выпушчаны пад падпіску аб нявыезьдзе. І пытаньне гэтае, як мне падалося, было ўжо амаль вырашанае, калі раптам пачуўся тэлефонны званок з Мінску, пасьля якога сьледчаму нічога не заставалася, як адправіць нас з Вадзімам назад у Жодзіна. Аднак перад адпраўкаю я здолеў яшчэ раз сустрэцца з адвакатам Скарулісам і расказаў яму пра тое, як мяне зьбівалі ў Жодзіна. Ён засьведчыў гэта і напісаў скаргу пракурору па наглядзе за турмамі і сьледчымі ізалятарамі. Ён жа даў інфармацыю пра зьбіцьцё ў прэсу. У далейшым мне гэта вельмі дапамагло. Адсюль вывеў я сабе яшчэ адно правіла: "Ня бойцеся скардзіцца! Горш вам ад таго – ня стане!"

У Жодзіна я адразу абвясьціў начальніку зьмены пра тое, што не спыніў галадоўку і перадаў пісьмовую заяву, якая гэта засьведчыла. Словы начальніка: "На этапе "бэнээфаўцы", — на гэты раз адыгралі супрацьлеглую ролю. Не білі нікога! Па сьведчаньні вопытнага зэка, такое не здаралася тут ужо больш за год. Гэта быў вынік зьяўленьня ў прэсе інфармацыі пра зьбіваньне мяне.

Тым ня менш пасьля таго, як усіх "раскідалі" па камерах, я зразумеў, што сапраўды нешта зноў ня так, бо пра мяне нават ня ўспомнілі. І толькі пад 10 гадзінаў раніцы 26-га верасьня ў камеру зайшоў міліцыянт і абвясьціў: "Галадоўка зьяўляецца грубейшым парушэньнем рэжыму ўтрыманьня. Вы павінны яе спыніць, інакш будзеце адпраўленыя ў карцэр".

Спыняць галадоўку, нягледзячы на дрэнны стан здароўя, я адмовіўся. Мяне адвялі ў карцэр і сказалі: "У цябе ёсьць час падумаць...".

Што сабою ўяўляе карцэр? Гэта зусім вузкая маленькая камера-адзіночка з унітазам перад вочкам наглядчыка і маленькай тумбачкай для прыёму ежы. Таксама ёсьць адкідныя жалезныя нары, якімі можна карыстацца з 22 гадзінаў да 6 гадзінаў. У астатні час яны прывязаныя да сьцяны. За ўвесь дзень падчас знаходжаньня ў карцэры зэк мае права прысесьці толькі тры разы: у час сьняданьня, абеду і вячэры. Я гэтым правам з-за галадоўкі карыстацца ня мог. Па той жа прычыне не магу расказаць, чым кормяць у карцэры, бо, зразумела, ежу мне не прыносілі. Увесь вольны час вязень павінен хадзіць па "хаце" з анучаю ў руцэ і церці сьцены.

Такога рэжыму мне хапіла роўна на суткі. Пераначаваўшы ў карцэры (дарэчы, тэмпература ў ім з-за ўвесь час адчыненага вакна нязначна перавышала тэмпературу на двары), падчас ранішняй праверкі я ня здолеў устаць "па стойцы сьмірна" і страціў прытомнасьць. А далей – зноў: рэанімацыя, уколы, шпітальная камера.

Пасьля другой галадоўкі страўнік ужо адмаўляўся ўспрымаць усялякую ежу, і яшчэ двое сутак мяне ванітавала "дыетаю". І толькі дзякуючы ўколам глюкозы неяк падтрымліваўся агульны стан. Так, напалову лежачы, я пратрымаўся да 14 кастрычніка, калі мяне выпісалі са шпіталю ў агульную камеру. Але нават гэтая выпіска не абыйшлася без прыгодаў. Зранку мяне выклікаў начальнік медчасткі і засьведчыў на паперы, папярэдне агледзеўшы мяне, што пабояў няма. Але ж пасьля зьбіцьця прайшло больш за месяц! Потым мяне выклікаў пракурор па наглядзе, якому мой адвакат пісаў скаргу, у падрабязнасьцях распытаў пра зьбіваньне, і пад канец дадаў, маўляў, даказаць факт зьбіцьця наўрад ці атрымаецца, але нервы мы ім патрэплем. Скончылася ж усё "расьсьледваньне" да простага банальна. Начальніку зьмены, які аддаваў загад зьбіваць мяне, была вынесеная вымова, а мяне некалькі разоў выклікаў аператыўны работнік СІЗА і абяцаў зьмясьціць у добрую камеру, толькі каб я больш не "падымаў шуму".

Так я апынуўся ў камеры №5. І зноў – нечаканасьць. Зьмясьцілі мяне ў камеру... для іншаземцаў. Двое рускіх, украінец, віетнамец ды двое прыбалтаў – вось і ўвесь "кантынгент". Асаблівасьць яго ў тым, што ніхто з маіх суседзяў, акрамя, натуральна, мяне – не атрымліваў перадачаў з волі, і тыя восем кілаграмаў, што дасылалі мне бацькі, зьнішчаліся за некалькі гадзінаў. І хаця перад гэтым у агульнай суме я галадаў амаль 10 сутак, цяпер, не на дыетнай пайцы, а на самай звычайнай, я насамсправе адчуў, што такое голад.

Голад – гэта калі глядзіш на карычневую вышчарбленую сьцяну і табе здаецца, што гэта скарынка хлеба. Голад – гэта калі адразу пасьля вячэры начынаеш думаць пра сьняданак, а нязграбна рассыпаныя кімсьці па стале крошкі хлеба выклікаюць абурэньне тым, хто гэта зрабіў. Голад – гэта калі марыш, што з заўтрашняга дня пачнуць даваць удвая большую пайку. Голад – гэта калі ў сьне чуеш, як школьная настаўніца прапануе вучням ісьці ў сталоўку падмацавацца манкаю, і тут жа прачынаешся ад таго, што "баландзёры" адчынілі "кармушку", каб перадаць абед. Але паступова да голаду прызвычайваешся. Адбываецца гэта шляхам зьмяншэньня твайго страўніка, і ўжо пасьля выхаду на волю ты ня зможаш есьці столькі, колькі раней. На пачатку тэрміну я часта марыў пра тое, як прыйду дамоў, сяду за стол і пачну доўга-доўга есьці. А выйшаў на волю і адчуў, што зусім нічога не хачу есьці. Зусім!

З іншаземцамі сядзелася весела. Дапамагаў ім пісаць скаргі, "зьдзеквайся", размаўляючы па-беларуску. Разам з імі адчуваў смак мянтоўскіх ботаў па вечарах на калідоры, і марыў, марыў, што вось-вось расчыніцца "кармушка", і ахоўнік скажа: "Шыдлоўскі, з рэчамі!" Але "кармушка" не адчынялася. А ў канцы кастрычніка прыйшла новы адвакат Тацяна Станкевіч. І калі размова наша доўжылася ўсяго пяць хвілінаў, то па паўгадзіны міліцыянты трацілі на тое, каб абшукаць мяне перад пакоем абаронцы (ці не перадам чаго) і пасьля сустрэчы (ці чаго ня вынес). Для гэтага яны двойчы распраналі мяне дагала і абмацвалі кожны рубчык на маёй вопратцы.

Дваццаць восьмага кастрычніка, калі пайшоў трэці месяц знаходжаньня пад вартай, сьледчы дазволіў маёй маці першае спатканьне са мною. І вось, пасьля доўгіх бятонных калідораў, ахоўнік дазваляе выцягнуць з-за сьпіны рукі і падняць вочы. Мама! Мілая мая мама! Усяго два месяцы я цябе ня бачыў, а здаецца – цэлую вечнасьць. Думкі імчаць у маёй галаве, а сказаць нічога не магу: ад псіхічнай напругі да горла падкаціў камяк і спыніўся там, не даючы выхаду словам. Толькі б не заплакаць! Трымайся, ты ж мужчына! Мама доўга распавядае пра хату, пра брата і бацьку, але гэта яшчэ больш наганяе на мяне тугу. Бачачы гэта, яна пераходзіць да іншага і расказвае пра мітынг, пікеты і зборы подпісаў у маю падтрымку. Адразу зьяўляецца нейкі гонар за сябе і сілы змагацца далей.

Падтрымка на волі — гэта якраз тое, што трэба кожнаму, хто сядзіць "за палітыку". Вельмі важна ведаць, што пра цябе памятаюць ня толькі родныя, але і сябры па змаганьні, што ладзяцца акцыі ў тваю падтрымку... Але гадзіна адведзеная на сустрэчу з маці, вельмі хутка скончылася. Тое, што насамрэч хацеў сказаць ёй, згадваецца толькі па шляху назад у камеру. Зрэшты, так яно бывае заўсёды...

*(Працяг будзе)*

---

*Працяг.*
*Пачатак у №№ 31-33.*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mal:rights@v96.open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі Ю. Дзядзінкіна і з архіву Цэнтра "Вясна-96"*